ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 14 (161) 5 — 11 красавіка 1996 г. Кошт свабодны

# ХРЫСТОС УВАСКРОС ! І БЕЛАРУСЬ УВАСКРЭСЬНЕ !

## СЛОВА КСЯНДЗА БІСКУПА АЛЯКСАНДРА КАШКЕВІЧА НА ВЯЛІКДЗЕНЬ 1996 ГОДУ

Умілаваныя ў Пане Хрыстусе, Браты і Сёстры, Любая Моладзь і Дарагія Дзеці!

Прыйшлі мы асобным чынам з Крыжам і пад Крыжам - разам з Маці Балеснай, у час Вялікага Посту, атмасьфера якога і сутнасьць Слова Божага на старонках Сьвятога Пісьма, прыгатавалі нас да перажываньня ў веры Таямніцы Пасхальных Сьвятаў.

У гэты час, молімся таксама словамі песьні Вялікоднай:

«Пане, Ты бачыш, не страшуся,<br>
Пане, Ты бачыш, не сарамлюся,<br>
Крыж Твой цалую, пад Крыжам кленчу,<br>
Бо на тым Крыжы Бога майго бачу».

Угл‍ядаючыся на Езуса Хрыстуса на Крыжы, кожны хрысьціянін, лепей разумее Яго Словы: «Я ёсьць Зьмёртвыхпаўстаньнем і Жыцьцём. Хто ў мяне верыць, хоць і памрэ, жыць будзе» (Ян 11.25)

Гэта Зьмёртвыхпаўстаўшы Езус Хрыстус, пры радасным гучаньні рэзурэкцыйных званоў у нашых парафіяльных касьцёлах, стаіць перад намі і віншуе нас: «Спакой Вам».

Умілаваныя! Зычу ад усяго сэрца і ўсёй душы маёй, з пастарскай заклапочанасьцю, перадаць Вам гэтае віншаваньне нашага Пана і Адкупіцеля, прыняўшага пакуты за нашы грахі, каб кожны быў вольным дзіцём Бога.

Хай гэты Спакой ад Зьмёртвыхпаўстаўшага Езуса паселіцца ў нашых сем'ях, каб жыцьцё ў веры - маці і бацькі - стала прыкладам малітвы і цьвярозасьці для дзяцей.

Хай Спакой Езуса, праз Вас, мае Умілаваныя, будзе данесены да людзей самотных, хворых і пакутуючых, да шпіталяў, вязьніц, дзіцячых дамоў і дамоў апекі над састарэлымі, каб і Яны пачулі словы Збавіцеля: «Спакой Вам». «Я ёсьць з Вамі... Вось стаю каля дзьвярэй і грукаю... Блаславёныя...»

У такой даверлівай атмасьферы трэба нам уверавацьу Богаў Пасхальнай Таямніцы і трываць, трываць у любові і ў малітве разам з Марыяй.

І аб такой паставе веры, надзеі і любові просіць нас Сьвяты Касьцёл -наша Маці; аб такой паставе просіць нас Сьвяты Айцец Ян




Павел II, аб такой паставе веры прашу Вас я, як Біскуп Касьцёла Гарадзенскага і на перажываньне гэтых Сьвятаў Вялікоднага Баранка ўдзяляю Вам Апостальскае Блаславеньне, У Імя + Айца і + Сына і + Духа Сьвятога. Амэн.

**Аляксандр КАШКЕВІЧ,**<br>
**Біскуп Гарадзенскі.**

## ХРЫСТОС УВАСКРОС! САПРАЎДЫ УВАСКРОС!

Хрыстос на самой справе ўваскрос. Выданы Юдам, асуджаны чалавечым натоўпам, неабаронены грамадзянскімі ўладамі, укрыжаваны рымскімі ваярамі, Ён памёр за ісьціну, выкупіўшы Сваёй сьмерцю чалавечыя грахі... А ў першы дзень тыдня, стаўшага днём Яго ўваскрасеньня, памёршы на крыжы Хрыстос уваскрос - сьмерць аддала Яго, бо ня мела над Ім улады, і Хрыстос зьявіўся пяці сотням сьведкаў Яго ўваскрасеньня...

Так пачалося хрысьціянства... Цяпер яно распаўсюдзілася па ўсім сьвеце, аб'яднаўшы ў сваёй царкве людзей незалежна ад нацыянальнасьці і стану.

Вялікдзень - гэта сьвята Уваскрасеньня Хрыстовага і нашага ўваскрасеньня ў новым, маральна абноўленым жыцьці. Вялікдзень - гэта доказ рэальнасьці нашых надзеяў на вечнае жыцьцё і шчасьце ў ім.

І «калі Хрыстос не ўваскрос, дык вера вашая пустая... А калі мы ў гэтым толькі жыцьці спадзяемся на Хрыста, дык найбольш нешчасьлівыя з усіх людзей. Але Хрыстос уваскрос з мёртвых, першынцам сярод памёршых стаўся (І Кар. 15,17-20). Увесь сэнс хрысьцінскага жыцьця знаходзіцца ва ўдасканаленьні сябе і чалавечага грамадства, у чаканьні новага неба і новай зямлі абноўленых людзей з другім прышэсьцем Хрыста. «Вось кажу вам тайну: бо ня ўсе мы памрэм, але ўсе пераменімся - зьнячэўку, у імгненьне вока, пры амошняй трубе; бо затрубіць, і мёртвыя ўваскрэснуць нятленнымі, і мы пераменімся, бо тленнаму гэтаму трэба апрануцца ў нятленнасьць, і сьмяротнаму гэтаму апрануцца ў несьмяротнасьць» (І Кар. 15,51-53).

Такім чынам, хрысьцінства скіравана ў шчасьлівую вечнасьць, якой чакае чалавецтва.

Вялікоднае сьвята 1996 году адбываецца ў 400-я - юбілейныя ўгодкі Берасьцейскай Уніі праваслаўнай і каталіцкай цэркваў. Берасьцейская Унія зьяўляецца спробай хрысьціянаў ажыцьцявіць царкоўнае адзінства, пра якое маліўся Хрыстос: «Не за іх жа толькі малю, але й за тых, што ўверавалі ў Мяне па слову іх: няхай будуць усе адно: як Ты, Айцец, у ва Мне, і Я ў Табе, так і яны няхай будуць адно, каб паверыў сьвет, што Ты паслаў Мяне; (Ян.17,20-21), і якое ён прадказаў: «і станецца адно стада і адзін пастыр» (Ян.10,16).

Шаноўныя чытачы, віншую вас з радасным Вялікодным Сьвятам і малітоўна зычу вам душэўнага спакою, дастатку жыцьцёвых сілаў і дасканалай радасьці, што прынёс Госпад сваім вучням.

**Сьвятар Гарадзенскай грэка-каталіцкай (уніяцкай) суполкі**<br>
**а.Віктар (Данілаў).**

## ХТО СЕЕ ВЕЦЕР — ПАЖНЕ БУРУ

**У адказ на падпісаньне ў Маскве патаемных дакумантаў аб стварэньні Супольнасьці Суверэнных Рэспублік Лукашэнка атрымаў у Менску 70-тысячнае шэсьце і мітынг пратэсту.**

2 красавіка, пасьля абеду, калі велічны картэж, узначальваемы чорным «Мэрсэдэсам» за нумарам «00-01», накіраваўся па прасьпекту Скарыны ў бок аэрапорту сустракаць Аляксандра Рыгоравіча, Менск нагадваў франтавы горад. Плошча Незалежнасьці па перыметру была ачэплена шчыльнымі шэрагамі міліцыі, сьпецназу, унутраных войск. На ўсіх прылеглых перакрыжаваньнях стаялі магутныя заслоны. Узброеныя людзі, перапыніўшы заняткі, занялі студэнцкія аўдыторыі БДУ, педагагічнага універсітэту, канцэнтраваліся ў дварах. Сотні аўтобусаў, магутная дарожная тэхніка, пажарныя машыны, вадамёты, сьпецмашыны хімічных войскаў... Такім чынам улады рыхтаваліся сустрэць тых, хто заявіў аб намеры пратэставаць супраць палітыкі, якая не мае нічога агульнага з інтарэсамі беларускага народу.

Напярэдадні гарвыканкам адмовіў прадстаўнікам Народнага Фронту ў праве правесьці на плошчы Незалежнасьці пікет. Адмовіў і дэпутатам П.Знаўцу і П.Данейку правесьці там сустрэчу з выбарцчыкамі. 1 красавіка ў штаб-кватэры БНФ быў праведзены санкцыянаваны Менскай пракуратурай вобыск. З самай раніцы «вертыкальнае» радыё папярэдзіла, што супраць прыйшоўшых на плошчу будзе прыменена сіла. Адбылася «утечка» інфармацыі, што сьпецслужбам выдадзеныя баявыя патроны і супрацьгазы... Ішла масіраваная псіхалагічная апрацоўка людзей. Мэта — застрашыць, запалохаць, дэзарыентаваць і дэзінфармаваць.

Аднак, нягледзячы на перакрытыя дарогі, на паралізаваны рух транспарту да 17 гадзінаў на подступах да паштамту і гатэля «Менск» сабралася прыблізна 10 тысячаў чалавек пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. Хвілін 20 ішло пазіцыйнае супрацьстаяньне пратэстуючых з міліцыяй і сьпецназам. Праз кожныя некалькі хвілін з магутнага дынаміка гучала паведамленьне, што акцыя пратэсту несанкцыянавана, што ўдзельнікаў пакараюць. Раз-пораз абвяшчалася, што «групы вашых адзінадумцаў» ідуць паралельнымі прасьпекту вуліцамі туды, дзе «мітынг дазволены» - у актавай зале інстытуту «Белгідравадгас» на вул.Варвашэні. Маўляў, даганяйце іх.

А тым часам сілы ахоўнікаў плошчы Незалежнасьці ўсё павялічваліся. Вось пабліскваючы шчытамі падцягваюцца новыя аддзелы сьпецназу. І дэманстранты, каб не ўцягнуцца ў загадзя падрыхтаваную ўладамі правакацыю, накіроўваюцца ў бок вул.Варвашэні.

У раёне Нацбанку, дзе тратуар перагароджаны, шэсьце міжволі выплеснула на прасьпект і запоўніла яго. З дапамогай дубінак сьпецназ рабіў адчайныя спробы вызваліць праезжую частку. Але людзкое мора ўжо нельга было ўтаймаваць. У калону ўліваліся ўсё новыя і новыя людзі. Пасьля таго, як амаль 40-тысячная калона павярнула на вуліцу, якая вядзе да опернага тэатру, стала ясна, што нават тыя 10 тысяч міліцыянтаў, якія падцягнуў у цэнтр Менска Лукашэнка, нічога ня могуць зрабіць. Бо зноў на вуліцы сталіцы выйшаў яе сапраўдны гаспадар - Яго Вялікасьць Беларускі Народ.

На вялікі жаль, "дзякуючы" правакацыйнай дзейнасьці менскіх вертыкальшчыкаў, давялося яму там быць не адну гадзіну. Падыйшоўшы да інстытуту «Белгідравадгас», калона, якая да таго часу налічвала каля 70 тысяч чалавек, вымушаная была гуртавацца на гурбах непрыбранага сьнегу, на трамвайных пуцях. Больш таго. Высьветлілася, што прапанаваная ўладамі зала зьмяшчае толькі 250 чалавек, а сам інстытут ачэплены сьпецназам і зачынены. Прайшоўшы 5 кіламетраў, калона зноў рушыла ў дарогу - да Палаца спорту. Канешне, людзі больш сталага ўзросту чыста фізічна не маглі вытрымаць такі маршкідок. Многія з іх адсталі. І тым ня менш пасьля некалькіх лакальных сутычак са сьпецназам, пераадолеўшы яшчэ 5 кіламетраў, больш 50-ці тысяч чалавек сабраліся на тым самым месцы, дзе 31 сакавіка Прэзідэнт, затраціўшы больш аднаго мільярда бюджэтных грошай, рабіў спробу арганізаваць сабе «усенародную» падтрымку.

Тады, прывезеныя з розных куткоў Беларусі на «Ікарусах» людзі, атрымаўшы салідныя камандыровачныя, аказаліся здатнымі толькі на тое, каб моўчкі пастаяць хвілін 15-20. Потым распачалося бегства. Пасьля таго, як мітынг скончыўся, на плошчы ўмомант не засталося нікога. Толькі міліцыя яшчэ доўга зьбірала патаптаныя партрэты Лукашэнкі, кінутыя проста пад ногі чырвона-зялёныя сьцягі ды іншыя сьведчаньні таго, што «народ одобряет».

2 красавіка сабраліся іншыя. Не па загаду начальнікаў, а па загаду сэрца. Нягледзячы на патрабаваньне мітынгу прадставіць гукаўзмацняльную апаратуру, гэтага зроблена не было. І тым ня менш, людзі выказалі сваё рашучае непрыманьне антынароднай дзейнасьці Прэзідэнта. «Луку - на муку», «Луку - у маўзалей», «Жыве Беларусь», «Моладзь за Беларусь», - магутным рэхам пракатвалася па прасьпекту Машэрава. Пасьля выступаў Паўла Знаўца, Сяргея Антончыка, Лявона Баршчэўскага мітынг адзінагалосна прыняў наказ дэпутатам Вярхоўнага Савету, у якім, у прыватнасьці, гаворыцца:

**(Заканчэньне на стар. 2)**

# ГРАМАДЗТВА

## БЫЦЬ ЦІ НЯ БЫЦЬ?

**Тое расейскае багацьце, якое знаходзіцца ў нетрах гэтай краіны, яшчэ не азначае і не забясьпечвае высокі жыцьцёвы ўзровень насельніцтва Расеі. На Беларусі справы зусім іншыя — у нетрах, здаецца, яшчэ нічога не здабывалася, а наш народ дастаткова багаты: і ў ранейшыя часы жыў лепей за расейцаў, і зараз мы жывем на іхнім ўзроўні.**

Таму Беларусь увесь час уяўляла для Расеі інтарэс як працавіты, высокакваліфікаваны народ, і ў гэтым плане мы заўжды станавіліся эканамічным донарам для Расеі. На Беларусі выраблялася многа тавараў, і значная іх частка паступала ў Расею. З моманту абвяшчэньня незалежнасьці гэтая сітуацыя не зьмянілася. Вось прыклады, як гэта ажыцьцяўляецца праз паліўна-энергетычны комплекс. Паколькі Беларусь цалкам залежыць ад Расеі ў пастаўках паліва, то Расея з самага пачатку абвясьціла, што будзе прадаваць нам нафту па сусьветных цэнах. У выніку Беларусь гандлявала з Расеяю на ўмовах, калі цэны на нафту выстаўляліся на ўзроўні сусьветных, а з беларускага боку тавары ішлі па бартэру (таму што не было валюты) у пяць— шэсьць разоў таньней за сусьветныя. Значыць, што мы плацілі за расейскую нафту ў 5—6 разоў даражэй за сусьветны ўзровень. Гэта можна пацьвердзіць, калі паглядзець каціроўкі замежных біржаў на бульбу, мяса, калійныя солі і г.д. Ішло абрабаваньне Беларусі. Прыдумаў гэта «вялікі дэмакрат» Гайдар (так званая парогавая эканоміка Гайдара). Усе краіны, якія выйшлі з СССР, трапілі ў гэтую пастку. Усе рэспублікі, якія залежалі эканамічна ад Расеі, сталі яе донарамі.

Але эканамічныя працэсы ў нашай краіне ішлі — сітуацыя мянялася. Пастаўкі нашай прадукцыі за мяжу на захад павялічыліся, у той час як у Расею яны скарачаліся (таму што Расея з намі не разылічвалася за атрыманую прадукцыю). Калі наша прадукцыя пайшла на захад — пачала паступаць валюта. І тады, калі мы маглі плаціць валютаю, Расея абвяшчае, што цэны на нафту будуць сусьветнымі, і ня толькі сусьветнымі, а на 30 працэнтаў вышэй за сусьветныя.

Што паралельна робяць расейскія фінансавыя групы? Згубіўшы магчымасьць манапольна валодаць нафтавым рынкам і рынкам нафтапрадуктаў на Беларусі, ім трэба было правесьці захоп нафтаперапрацоўчых заводаў на Беларусі. Гэта быў стратэгічны ход, бо ўжо сёньня відаць, колькі Беларусь губляе на тым, што выкарыстоўвае ў якасьці паліва расейскі газ. Нафты ў Расеі няма, для таго каб нас цалкам забясьпечыць, і болей ніколі ня будзе. І таму нам падсунулі газ. Спальваючы газ, мы атрымліваем нашу цеплавую і электрычную энергію на 30-40 працэнтаў даражэй, чым калі б мы спальвалі сваю мазуту, набытую па сусьветных цэнах, скажам, на захадзе.

На сёньняшні дзень 80 працэнтаў Мазырскага нафтаперапрацоўчага заводу належыць «Слаўнафце», 74 працэнты акцый аб'яднаньня «Нафтан» перайшлі дзьвюм расейскім кампаніям «ЛУКойл» і «Юкас». Гэта выклікана ў першую чаргу страхам перад утварэньнем Балта-Чарнаморскага нафтавага калектару. Паклаўшы руку на нафтаперапрацоўчыя прадпрыемствы, можна дыктаваць, адкуль павінна нафта прыходзіць і куды яна павінна ісьці. І можна фармаваць структуру спажываньня энэрганосьбітаў у Рэспубліцы Беларусь.

Пастаўляючы зараз нам газ, Расея фактычна кантралюе ўсю нашу энергетыку. Высокія цэны, якія ўстанавіла Расея на газ (яны зараз фактычна на ўзроўні сусьветных), не дазваляюць беларускім заводам выпускаць тавары, якія былі б канкурэнтаздольнымі ня толькі на сусьветным рынку, але нават на рынку Расеі. Такім чынам Расея абараніла сябе. Нідзе ў сьвеце няма такога становішча, каб кошт энерганосьбітаў у кошце прадукцыі складаў 30 працэнтаў. Цана энерганосьбітаў для нашых заводаў у тры разы вышэй за сусьветную (калі, напрыклад, параўнаць яе з краінамі Скандынавіі ці хаця б з Літвою). Сёньня выгадней спыніць усе электрастанцыі на Беларусі і атрымліваць электраэнергію з Літвы, чым выраблць уласную.

Усю гэтую сітуацыю працягвае «нулявы варыянт», які падпісаў наш прэзідэнт. Нават калі б у Беларусі не было ніякіх даўгоў, то гэты доўг трэба было б прыдумаць. Скажам, па нафце няма ніякіх даўгоў. Там камэрцыйныя фірмы разьлічваюцца паміж сабою, а на ўзроўні дзяржаў ніякіх разьлікаў няма. Для таго, каб увесьці дзяржаўную залежнасьць, і існуе дзяржаўны разьлік па газу (хаця, па сутнасьці, Газпрам зьяўляецца акцыянерным таварыствам і яго дачыненьні да расейскага ўраду ідуць толькі праз Чарнамырдзіна). На Ўкраіне зараз за газ разьлічваюцца толькі камерцыйныя фірмы, дзяржава ніякага дачыненьня да гэтага ня мае, і там гэтыя пытаньні зьнятыя.

Увесь гэты час на Беларусі праводзілася неаканаляльная палітыка. Палітыка, пры якой улада быццам бы належыць народу, а ўся фінансава-прамысловая структура пачынае пераходзіць у Расею. Мы перастаем быць гаспадарамі на сваёй зямлі. Той, хто кантралюе інфраструктуру, той кантралюе і тэрыторыю. Нафтаперапрацоўчы комплекс Беларусі — гэта адзін з найважнейшых элемэнтаў інфраструктуры. Сваю інфраструктуру мы фактычна здалі Расеі. Далей будуць адбывацца новыя здачы. Ужо існуе сьпіс прадпрыемстваў, якія плянуецца перадаць Расеі. А даўгі зноў будуць прыдумляць, і прадпрыемствы зноў пойдуць пад доўг.

У прынцыпе, нас рабавалі і працягваюць рабаваць. Сёньня аднаго эканамічнага абрабаваньня становіцца ўжо мала. Пачынаюць раскручвацца пытаньні далей — у палітыцы і геапалітыцы. Расеі трэба кантраляваць тэрыторыю больш шчыльна, каб атрымліваць з гэтай тэрыторыі большыя даходы для сябе. Таму мы і маем той палітычны націск, які добра відаць у палітыцы Лукашэнкі.

Ацэньваючы сітуацыю, якая склалася на Беларусі, мы бачым, што паўстала пытаньне — быць ці ня быць Беларусі як суверэннай дзяржаве. Ідзе здача незалежнасьці, здача суверэнітэту Беларусі. Беларусь можа перастаць быць дзяржаваю. Пад пагрозаю само існаваньне беларускага народу.

**Станіслаў ГУСАК.**

## ЗАМЕСТ «РОГ І КАПЫТОЎ» — «КАПЫТЫ І РОГІ»?

**Гарадзенскія ўлады напрыканцы сакавіка вымушаныя былі адмяніць сваё рашэньне ад 21 чэрвеня мінулага году. Зацьверджанае тады часовае палажэньне аб аказаньні платнай метадычнай і арганізацыйна-тэхнічнай дапамогі і выкарыстаньне атрыманых грашовых сродкаў упраўленьнем гандлю і грамадзкага харчаваньня парушала законы «Аб супрацьдзеяньні манапалістычнай дзейнасьці і разьвіцьцю канкурэнцыі», а таксама «Аб мясцовым кіраваньні і самакіраваньні».**

З гэтай нагоды 12 сакавіка старшыня гарадзенскага абласнога тэрытарыяльнага камітэту па антыманапольнай палітыцы Леанід Кардаш накіраваў у гарвыканкам Прадпісаньне аб ліквідацыі парушэньняў антыманапольнага заканадаўства. У гэтым дакуманьце гаварылася, што ў зацьверджаным летам 1995 году Палажэньні заказчыкі «понуждались» (так пададзена ў арыгінале - аўт.) заключаць дамовына аплату арганізацыйна-кансультатыўнай дапамогі грамадзянам, якія зьвярталіся за дазволам на гандлёвую дзейнасьць.

Адмяніўшы гэтае рашэньне, гарадзкія ўлады вывучаюць мэтазгоднасьць стварэньня... новай структуры «для зьдзяйсьненьня метадычнай і арганізацыйна-тэхнічнай дапамогі прадпрыемствам і арганізацыям гандлю».

**В.М.**

## НОВАЙ СЬПЕЦШКОЛЫ НЯ БУДЗЕ?

**Гарадзенскі гарвыканкам прыняў 20 сакавіка рашэньне аб вызваленьні ўпраўленьня капітальнага будаўніцтва гарвыканкаму ад уплаты за карыстаньне зямельнымі ўчасткамі, адведзенымі пад будаўніцтва дзьвюх новых школ у Горадні.**

Будаўніцтва школы на 1296 месца на вуліцы Рэпіна і сьпецшколы (для разумова адсталых людзей) на вуліцы Дамброўскага закансервавана яшчэ ў лістападзе мінулага году. Між тым, як паведамляла «ПАГОНЯ», пастановай Галоўнага дзяржаўнага санітарнага ўрача Гарадзенскага цэнтру гігіены і эпідэміялогіі сп.Келдыша санітарна-гігіенічныя ўмовы і стан будынку сьпецшколы N 4 прызнаны шкодным для здароўя вучняў...

**В.Р.**

## ДАЙШЛІ ДА РУЧКІ, А ЦЕРПІМ

У Навагрудзкіх хлебных магазінах пачалі красьці кавалкі батонаў. Адломяць і ў кішэню, пакуль ніхто ня бачыць. Далей, здаецца, ужо няма куды.

## ЭКАЛАГІЧНАЯ КАТАСТРОФА НЕ АДБЫЛАСЯ

21 сакавіка на 120-м кіламетры шашы Менск - Горадня грамадзянін Расейскай Федэрацыі Х. ня справіўся з кіраваньнем аўтамабіля ЗІЛ-130, выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся яшчэ з адным ЗІЛам, які вёз аміяк. Грузавік з аміякам заляцеў у ковет і перакуліўся. Але, дзякуй Богу, ёмістасьць з аміякам вытрымала і, як заверыў начальнік штаба грамадзянскай абароны Івейскага раёну У.Тонкі, уцечкі небясьпечнага для жыцьця газу не адбылося.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## БІЗНЕС-ЦЭНТР У БЕРАСЬЦІ

29 сакавіка ў Берасьці адчыніўся Берасьцейскі бізнэс-цэнтр, створаны ў межах праекту Міжнароднай Фінансавай Карпарацыі «Падтрымка прыватнага прадпрымальніцтва ў Беларусі».

БРЕСТ БИЗНЕС ЦЕНТР

Фінансавую дапамогу ў яго стварэньні зьдзейсьніў Брытанскі фонд Ноў-Хаў. На ўрачыстым адкрыцьці прысутнічаў прадстаўнік гэтага фонду Юры Шырокі, а таксама Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі сп.Джэсіка Пірс.

На працягу году цэнтр будзе прадстаўляць сваім кліентам - кіраўнікам малых прыватных прадпрыемстваў - бясплатныя паслугі ў трох мікраёнах: навучаньне бізнэс-планаваньню і семінары, прамыя кансультацыі і інфармацыйныя паслугі. Першыя слухачы, якія прайшлі ў Цэнтры інтэнсіўныя пяцідзённыя курсы, ужо атрымалі сертыфікаты аб сканчэньні курсу па бізнэс-планаваньню.

## А КАЛІ Б НЕ БЫЛО ПРЫВАТЫЗАЦЫІ?

Дзякуючы прыжыўшайся ў Горадні практыцы правядзеньня аўкцыёнаў па продажу камунальнай уласнасьці, мясцовыя ўлады маюць сёньня зусім ня лішнюю грашовую крыніцу. Так, за кошт прыбытку, атрыманага аддзелам па кіраваньню камунальнай маёмасьцю і прыватызацыяй гарвыканкаму, пералічана 126 мільёнаў рублёў на набыцьцё аўтатранспарту. Яшчэ 4 мільёны атрымае гарадзкі камітэт Чырвонага Крыжа. Гэтыя сродкі пойдуць на аплату камунальных паслугаў. А з грашовага пірага, сьпечанага гарадзенскімі прыватызатарамі, перападзе кавалак коштам у адзін мільён і сярэдняй школе N 8. 9 красавіка школьнікі будуць прымаць дэлегацыю ліцэя «Артэруар» з французкага горада Брэста.

**Вітаўт РУДНІК.**

## ХЛЕБ ПАДАРАЖЭЕ

Значна павышаны закупачныя цэны на зерне ў 1996 годзе. Так, за тону жыта дзяржава зьбіраецца плаціць ад 113 да 130 долараў супраць 73 летась. Тона пшаніцы ў залежнасьці ад якасьці будзе каштаваць 126-234 долары. Было 100-120 долараў. Ячмень пацягне на 126-130 долараў. Летась было 110. Таму чакайце павышэньня цэнаў на хлеб толькі з гэтай прычыны ў 2 разы, на булкі - ў 3 разы, на піва - ў 1,3 раза.

## НЕ ПЛАЦІЦЬ - ДЫК НЕ ПЛАЦІЦЬ

Больш за 6 мільярдаў рублёў завінаваціліся ў бюджэт прадпрыемствы Ліды. Самыя злосныя неплацельшчыкі: ліцейна-механічны завод, завод электравырабаў «Лідсельмаш».

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## ХАЛАСЬЦЯКОМ ЖЫЦЬ ДАРАЖЭЙ

Рэзкае павышэньне коштаў аплаты за пражываньне ў інтэрнатах абрынулася на галавы бяздомных іх насельнікаў. Бяздомных таму, што пару квадратных метраў у будынку казарменнага тыпу цяжка назваць уласным жытлом. Плата ў месяц за так званае ложка-месца зараз складае ад 110 да 170 тысячаў. Напрыклад, у інтэрнаце абласнога ўпраўленьня культуры (па вуліцы Рэпіна,3) грашовы збор вырас у два(!) разы (з 80 да 160 тысячаў). Родная дзяржава (каму яна служыць?) гатова са зьбяднелых людзей вытрэсьці астатняе. Некаторыя гаспадары інтэрнацкіх установаў выявілі і арыгінальнасьць - пераразьлік аплаты ў іх тычыцца толькі халасьцяцкіх асобаў.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

## КАМУНІСТЫ СПЫНЯЦЬ ПРЫВАТЫЗАЦЫЮ?

Пасьля некаторай зімовай сьпячкі зноў актыўна завіравала палітычнае жыцьцё ў Маладэчне. Яшчэ нядаўна ў горадзе выступалі дэпутаты ВС, сябры АГП сп.Багданкевіч і сп.В.Шлыньдзікаў, а ўжо ў суботу 23 сакавіка маладэчанцы мелі магчымасьць наведаць месца пастаяннага зборышча мясцовых камунафашыстаў - актавую залу палітэхнікума, дзе з прамовамі выступаў старшыня пастаяннай камісіі ВС па правах чалавека, нацыянальных пытаньнях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадзкімі аб'яднаньнямі і рэлігійнымі арганізацыямі, сябра фракцыі ПКБ у ВС сп.І.Катляроў.

Нягледзячы на шчыра расклееныя афішы, на сустрэчу прыйшло каля 70-ці пераважна сталага ўзросту чалавек. Даклад сп.Катлярова, насычаны камуністычнай лексікай, быў малацікавы і ў асноўным грунтаваўся на асьвятленьні працы сваёй камісіі. Відаць, лічачы тэму аб'яднаньня Беларусі і Расеі справай часу, дакладчык і яго прыхільнікі ў зале не надалі ёй належнага дынамізму і канцэптуальнага значэньня, абмовішыся аб гэтым парай-тройкай скамечаных фраз. Адзінае, на што б варта было зьвярнуць увагу, дык гэта паведамленьне сп.Катлярова аб хуткім вынясеньні фракцыяй камуністаў у ВС пытаньня рэферэндуму адносна спыненьня практычна непачаўшагася працэсу прыватызацыі ў пакуль што яшчэ не праданай, у тым ліку і імі, краіне. Бывай прыватызацыя?

**Алесь ЦАДКО.**







Если Борис Николаевич хочет прощать долги пану Лукашенко, то пусть прощает свою долю. А я лично собираюсь пойти к белорусскому посольству с лозунгом «Лукашенко, отдай мне мои долги!»

# СОЮЗ НЕРУШИМЫЙ РЕСПУБЛИК ГОЛОДНЫХ

**Валерия Новодворская**

*Опять полудохлая, вконец разорённая коммунистами, истощённая морально и физически кавказской войной Русь собирается кого-то сплачивать навеки. Сплачивать и оплачивать чужие счета. В Новосибирске хорошо, спокойно, враг даже в 1941 году до Урала не дошёл, а мы, в Москве, в буквальном смысле слова защищаем Брестскую крепость. Дело в том, что России угрожает нашествие иноплеменников. На этот раз это будут не монголы, не половцы, не печенеги, не неразумные хазары - нашествие нам угрожает с Запада. Но, увы, это не НАТО, из-за которого, по словам Бориса Николаевича, новосибирцы не спят по ночам, опасаясь его расширения на Восток.*

*Пока суть да дело, на нас собираются напасть мирные доселе белорусы. Те из них, которые недостаточно гордые внуки славян, под предводительством воинственного пана Лукашенко. Напасть они на нас собираются с распростёртыми объятиями: в одной руке, значит, ложка, а в другой - миска. Недавно 80 процентов белорусских «совков» (а «совок» - он и в Африке «совок») проголосовали за сближение с нашим обеденным столом. Если кто-то из наивных сибиряков думает, обливаясь слезами умиления, что они так с 1992 года по нам стосковались, то это не совсем так. Как сказал пан Лукашенко, «мяч уже на вашем поле», то есть их ложка уже в нашей кастрюле. Они стосковались по нашему бюджету, по нашему карману, по нашим энергоносителям. О, вероломные: поцелуй - в уста, кинжалы - в чужой каравай! Мне не жалко было бы накормить те 20 процентов достойных людей, которые голосовали против того, чтобы Беларусь утратила независимость, достоинство и честь, но ведь они не попросят, не возьмут. Не возьмёт Зенон Позняк, лидер Белорусского народного фронта, не возьмут пан Шушкевич, Василь Быков и Светлана Алексиевич. Я понимаю, конечно, что Российская Федерация забыла под Гродно, Могилёвом и Минском кучу ракет с ядерными боеголовками. В нашу будущую недвижимость входят также стада тучных - не овец, танков - и живая военная сила, которую забыли сократить или уволить в запас. Её там столько, что, по признанию самих белорусов, Польшу можно завоевать за пять дней, а Англию - за три недели. Но этого мы уже проходили и, главное, без толку - хоть от одного завоевания нам была польза? Александр Македонский и Юлий Цезарь были добытчиками, а Ленин, Сталин и Брежнев - налётчиками, которые награбленное несли не в дом, а в кабак и бордель. Так вот недавно лидер «впередсмотрящей» единоличной России Борис Фёдоров заявил, что в качестве колонии (субъекта Федерации) он Беларусь возьмёт, а конфедерация - дело сомнительное, дорого. Так пусть нам Борис Фёдоров и объяснит, как он собирается свою новую колонию эксплуатировать - так же, как и встарь? В Киеве - варёная колбаса, а в Москве одна от неё верёвочка? В Беларуси творог, а в Москве обрат? За счёт чего же достигается такой замечательный эффект? До перестройки уровень жизни в Белоруссии был в два раза выше, чем в России. На Украине - даже в три-четыре раза и так же, соответственно, в Грузии. Может быть хватит доить Россию? Молочная кухня закрыта на переучёт.*

*Когда рухнули стены «темницы народов», «совков» выпустили и амнистировали, и у них была полная возможность утроить свои результаты, отгородившись от «империи зла». Почему же у белорусов уровень жизни упал в пять-шесть раз, а наш рубль и на Украине, и в Грузии слывёт за твёрдую валюту, так что из стран СНГ ездят к нам на «валютные заработки»? Как потопаешь - так и полопаешь. Пока у нас Гайдар проводил реформы, Беларусь выбирала пана Лукашенко председателем республиканского колхоза и пыталась жить так, как завещал ещё великий Ленин, как учила Коммунистическая партия. Четыре года безделья даром не прошли. Впрочем, при Советской власти и в России, и в Белоруссии никто ничего не делал, все били баклуши. Однако счета за белорусское безделье приходили в Москву, было кому списывать долги. А с независимостью халява кончилась, трактора родные «Беларусь» и прочий металлолом стало некому сбывать, поэтому и сели на мель. Если Борис Николаевич хочет прощать долги пану Лукашенко, то пусть прощает свою долю, то, что брали из своего кармана, а не из госбюджета. А я лично собираюсь пойти к белорусскому посольству с лозунгом «Лукашенко, отдай мне мои долги!» Прежде чем прощать за всех россиян оптом 173 миллиона долларов, надо бы президенту референдум, что ли, провести. У донора берут 200-400 граммов крови, но не все же 5-6 литров! А у России пытаются выкачать всё. Поэтому я вправе рассматривать пана Лукашенко как вампира из фильма «Дракула» и встретить его на границе с осиновым колом. Если встанет об этом патологическом совокуплении вопрос на референдуме, то россияне, по-моему, должны ответить одной фразой: «Ребята, отвалите, Бог подаст!»*

*Почему я говорю о патологии? Да потому, что иначе белорусскую ситуацию не назовёшь: денег мало, коммунистов много. Нам своих-то сложно прокормить, а тут ещё соседские. Пан Лукашенко равняется на Гитлера (сам в интервью проговорился), в стране у него цензура и Советская власть, ни свободы, ни еды - одно братство и равенство. Электорат Беларуси будет голосовать за Зюганова и Жириновского. Интересно, с кем ещё до выборов успеет объединиться Борис Николаевич - с Кубой, с Северной Кореей, с Нигерией, с Ираком? Они бы не прочь. Всегда можно найти что-нибудь голодное и тоталитарное.*

*Россия не заслужила возвращения в коммуналку: только-только новоселье в отдельной квартире справить успели.*

**Гэты артыкул, надрукаваны 14 сакавіка 1996 году ў газеце «Новая Сибирь», дасланы ў «ПАГОНЮ» наш чытач з Навасібірска В.Кароль, які прыклаў да матэрыялу і свой невялікі каментар.**

Я нарадзіўся і да 18 гадоў жыў у Лідзе. затым вучыўся ў ваенным вучэльні ў Рызе, служыў у ракетных войсках стратэгічнага прызначэньня ў Рэчыцы. Пасьля расфармаваньня часткі апынуўся ў Навасібірску. Шкада было кідаць справу, якой аддаў 19 гадоў жыцьця. Тым больш, што да пеньсіі заставаўся ўсяго год. Але дзякуючы менавіта гэтым гадам згубіў беларускае грамадзянства. Такіх яе, але ўжо звольніўшыхся - тысячы. І ўсе яны павінны прынесьці даведкі, што зьяўляюцца мясцовымі жыхарамі. Такога не было нават у Латвіі, дзе зьбіралі сваіх латышоў-вайскоўцаў па ўсяму сьвету. У гэты ж час «пан Лукашэнка» зьбірае усе камуністычныя адкіды па ўсяму былому Саюзу.

Што датычыць вытрымак з артыкула сп.Навадворскай, то яны выдатна адлюстроўваюць увесь вялікарасейскі шавінізм. Так, да перабудовы ўзровень жыцьця ў Беларусі быў сапраўды вышэйшы. Але давайце прыгадаем тыя часы. Мая бабуля, якая жыла ў вёсцы пад Лідай, зарабляла «совковую» пеньсію ў 12 рублёў. А паглядзелі б вы на яе рукі! Яна і ўявіць не магла, што ў яе ня будзе кароўкі, цялушкі, гусей, кур, гарода - дзесяці сотак зямлі. Я навучыўся касіць у 10 гадоў, хоць і жыў у горадзе. На ўсю вёску прыходзілася 2-3 «алкашы». А што ў Расеі? Да абеду цьвярозымі ў кожнай вёсцы заставаліся 2-3 чалавекі! Добра памятаю тыя часы, калі на лідзкім мясакамбінаце штодня грузілі рэфрэжэратары на Маскву. Ну і пражэрлівыя ж вы, масквічы!

Што ж датычыць таго, што ў Расеі ніхто нічога не рабіў і ня робіць-згодзен. Не дарэмна ж у гэтую краіну ўвозіцца 40% харчаваньня - паказчык жахлівы! Тая ж Беларусь, хоць і пад кіраўніцтвам асобы, не абцяжаранай інтэлектам, увозіць адкідаў Захаду на шмат менш. Таму што палова насельніцтва краіны не пасьпела стаць «совками», бо палову Беларусі вызвалілі ад бальшавікоў канчаткова толькі ў 1944-м, хоць спрабавалі зрабіць гэта і ў 1939-м. Дзякуючы гэтаму мая бабуля паўтарала мне малому вечарамі: «Я мужык-беларус, пан сахі і касы...»

Спрэчнае пытаньне і наконт металалому. Хутчэй ім зьяўляецца прадукцыя расейскіх трактарных заводаў. Затое «старэйшы брат» гоніць у гэтую «калонію» камплектуючыя па коштах, перавышаючых сусьветныя. Маўляў, а куды ж вы дзенецеся, «бульбашы»? Тым часам палова прадпрыемстваў у Беларусі стаіць з-за «любвеобильных» расейцаў.

Але дзіўна ня тое, што мы, беларусы, улезлі ў запазыку Расеі. Дзіўна тое, што Расея павінна нашаму суседу - Летуве. Летувісы даўно зразумелі, што зьяўляюцца для Расеі БРАМАЙ У СЬВЕТ, а Беларусь да гэтага часу - усяго толькі прахадны двор, прычым, загаджаны.

**В.КАРОЛЬ.**

# «НАВАТ У СНАХ БАЧУ ГОРАДНЮ»

**Сёньня сьвятая імша ў касьцёле на беларускай мове ўжо нікога не зьдзіўляе. А пачынаў гэтую справу ў парафіі сьв.Францішка Ксаверыя ў Гарадзенскай катэдры разам з ксяндзом-пробашчам Юзафам Трубовічам кс.Анатоль Маркоўскі ў 1992 годзе. Ад'ехаўшы з Горадні, кс.Анатоль пакінуў тут шмат сяброў і тых, каму дапамог прыйсьці да Пана Бога. Зараз айцец Анатоль - пробашч чатырох парафіяў на Літве. З ім мая перадсьвяточная размова.**

*- Ксёндз-пробашч, колькі часу Вы ўжо ў Літве, і ці адрозьніваюцца Вашыя літоўскія парафіяне ад беларускіх?*

- На Літве я працую з восені, вось ужо сем месяцаў. А людзі... яны ўсюды такія самыя. У мяне чатыры парафіі - Калесьнікі, Дубчы, Паночы і Рудня. Усе знаходзяцца на мяжы з Беларусьсю. Паноцкая парафія нават утварылася з часткі нацкай, касьцёл якой знаходзіцца на Беларусі. Гэтыя вёскі размаўляюць па-беларуску і культура тут блізкая да беларускай. Такім чынам, папярэдні мой досьвед тут да месца. Я вельмі цешуся, што маю 10 тысяч добрых парафіянаў, хаця адчуваю недахоп часу.

*- Вы кажаце, што людзі тут размаўляюць па-беларуску. А ці гучыць беларуская мова ў тутэйшым касьцёле?*

- Так. Да маёй парафіі належыць вёска Ракі, якая месьціцца пад самай мяжой з Беларусьсю. Тут склалася так, што палова вяскоўцаў -каталікі, а другая палова - праваслаўныя. Усе яны ня ведаюць ані польскай, ні літоўскай мовы, таму самі прапанавалі мне праводзіць сьвятую імшу па-беларуску. Зараз кожную нядзелю беларуская імша зьбірае ў капліцы сьв.Яна Хрысьціцеля, што ў памяшканьні былой пачатковай школы, каталікоў і праваслаўных вёскі Ракі.

*- Што цешыць Вас у працы?*

- Я працую з аптымізмам, бо адчуваю, што гэтая праца патрэбна людзям. Цешыць тое, што бачу, як касьцёл злучае і дапамагае людзям.

*- А ці ёсьць у Вас сентымент да Горадні?*

- Горадню я вельмі люблю і, ведаеш, нават у снах яе бачу. Калі ў мяне выпадае нагода прыехаць у Горадню, я пачуцьцёва абвострана перажываю кожную сустрэчу.



*- Вы бы хацелі вярнуцца ў Горадню, дзе Вас памятаюць і любяць?*

- Калі на гэтае будзе воля Божая - канешне.

*- Набліжаецца галоўнае хрысьціянскае сьвята – Вялікдзень, сьвята сьвятла і надзеі. Якія спадзяваньні ў Вас яно нараджае?*

- Хрыстус аднойчы памёр і ўваскрос. А Вялікдзень - гэта прыпамінаньне вялікай таямніцы. Спадзяюся, што сьвята прынясе радасьць маім парафіянам, якія так яго чакаюць! У людзей зараз надзвычай шмат праблем, і гэта зьвязана ня толькі з недахопам грошай. Людзі духоўна спустошаныя. Перажываньне таямніцы сьмерці і ўваскрашэньня Хрыстуса надасьць ім духоўнасьці.

*- Што б Вы хацелі пажадаць гарадзенцам?*

- Зараз Беларусь перажывае складаны час. Гэта выпрабаваньне для сапраўдных беларусаў. Няхай уваскросшы Хрыстус ўмацуе людзей ў веры, каб яны годна прайшлі праз усе выпрабаваньні. Хай апякуецца Вамі Бог!

*- Дзякуй і дай Вам Божа багатага плёну на душпастарскай ніве.*

**Гутарыла Натальля МАЛІНОЎСКАЯ.**

# УСПОМНІЛІ ПРА ЗАЛАТУЮ ЖЫЛУ

**У бліжэйшы час на Гарадзеншчыне будзе створаны Савет па выставачна-ярмарачнай дзейнасьці.**

Асноўнай задачай яго стануць выпрацоўкі агульнай канцэпцыі разьвіцьця турызму ў вобласьці і прэзентацыя рэгіёну ўцэлым. Арганізацыяй Савету даручана займацца аддзелу зьнешнеэканамічных зносінаў аблвыканкаму і абласному камітэту па фізічнаму выхаваньню, спорту і турызму.

**В.М.**

# ЛІДЗЯНЕ Ў МУРМАНСКУ

**У Мурманску адкрылася выстава прамысловых вырабаў краін СНД. Прымае ўдзел у ёй Лідзкі завод электравырабаў. Дарэчы.**

Аб'ём вытворчасьці завода ў параўнаньні з леташнім вырас на 66 працэнтаў, але прадукцыя ў асноўным ідзе на склад. Таму ўдзел у выставе - гэта яшчэ адна спроба знайсьці спажыўца.

# СЬВЯТКАВАЦЬ ЮБІЛЕЙ МІЦКЕВІЧА БУДЗЕМ У ВАРШАВЕ

Старшыня Навагрдзкага гарвыканкаму Г.Бака, загадчык гарадзкога аддзела культуры В.Лаўрашчук і дырэктар Дома-музея Адама Міцкевіча Г.Кучман атрымалі запрашэньне прыняць удзел у Міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысьвечанай сьвяткаваньню 200-гадовага юбілею вялікага беларускага і польскага песьняра. Праходзіць яна будзе ў Варшаве. На канферэнцыі чакаюцца прадстаўнікі Беларусі, Францыі, Італіі, Летувы, Германіі, Швайцарыі, Украіны.

Аналагічная сустрэча ўжо праходзіла ў Наваградку ў 1993 годзе.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

# МІТЫНГ У КІЕВЕ

**«Дэстабілізацыя палітычнай сітуацыі ў Беларусі пагражае міру і спакою ва ўсёй Эўропе», - заяўляюць удзельнікі мітынгу ў падтрымку Беларускага Народнага Фронту.**

Яны лічаць, што пачаліся «рэпрэсіі супраць нацыянальнай дэмакратыі, супраць грамадзян, якія адстойваюць правы свайго народу мець сваю дзяржаву, права на вольнае разьвіцьцё нацыі і асобы». Удзельнікі мітынгу заклікаюць міжнародныя арганізацыі абараніць дэмакратыю і правы чалавека ў Беларусі, растаптаныя правячым рэжымам. У акцыі 31 сакавіка на Сафійскай плошчы ў Кіеве ўдзельнічала каля трох тысяч чалавек, у ліку якіх былі лідар БНФ Зянон Пазьняк і прадстаўнікі нацыянальна-дэмакратычных партый Украіны. Маніфестанты трымалі плакаты з лозунгамі «Рукі прэч ад незалежнай Беларусі!», «НЕ расейскаму імперыялізму!», «ТАК свабодзе чалавека і нацыі!», «ТАК дэмакратыі!». Арганізаваў мітынг Народны Рух Украіны пры садзеяньні Кангрэсу ўкраінскіх нацыяналістаў.

**«Э.-Х.»**

